# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1282) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 21 ВЕРАСНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




**Па роднай зямлі.** Ваколіца Старога Ляўкова. Фота Я. Целушэцкага.

## ДА II З'ЕЗДУ ВЫПУСКНІКОЎ БЕЛЬСКАГА БЕЛЛІЦЭЯ

# Сямейная размова

*МІКАЛАЙ КРАСОЎСКІ. Нарадзіўся ў вёсцы Кнаразы. Вучыўся ў нашым ліцэі ў г.г. 1952-56. Потым у ВСП у Апалі. Магістр матэматыкі.*

— Ці вы свядома выбралі працу ў беларускім ліцэі?

— Так. Яшчэ на студыях з розных школ прыязджалі, запрашалі. Я прыйшоў сюды.

— Не шкадуеце?

— Я не. Можа толькі вучні.

— Чаму?

— Бо ўжо 20 гадоў залажу ім за шкуру. Добра, што ўсе зм‍яняюцца кожныя чатыры гады. 20 год ніхто не вытрымаў бы.

— Але вы з імі вытрымліваеце.

— Я мушу.

— Але вельмі ўзрос узровень навучання матэматыкі ў школе пры вас. І як бы вы не скромнічалі, ваша заслуга ў гэтым несумненная. Ці ёсць нейкая тайна ў навучанні такога для некаторых нецікавага і мёртвага прадмета?

— Што матэматыка цяжкі прадмет, гэта паверхоўная апінія. Яна тады праўдзівая, калі глядзець на матэматыку як на збор правіл, не маючых з сабой сувязі.

— А як яно ёсць?

— З аднаго вынікае другое. І калі чалавек гэта зразумее, то адкрые праўду — адкрые матэматыку.

— Гэта цудоўна! Як думаеце, колькі працэнтам нашых выпускнікоў пры вашай дапамозе ўдалося адкрыць праўду?

— Не лічыў.

— Палавіна, больш?

— Ёсць такія.

— Праўду шукаць цяжка?

— Трэба працы.

— З нашай школы многа моладзі ідзе на напрамкі, звязаныя з матэматыкай. Ці гэта значыць, што яны на добрай дарозе да праўды?

— Бываюць памылкі, але ў асноўным так. Гэтыя людзі не маюць комплексаў перад прадметам і гэта памагае.

— Вашу працу ў школе і для школы ацэньваюць вельмі высока. А як вы ацэньваеце сваю ролю?

— Я працую звычайна — і гэта ўсё.

— Вы за тым, каб з'езды адбываліся?

— Так.

— Чаму?

— Бачым, як самі старэем. Прыязджаюць з барадамі тыя, якіх мы вучылі. Калі яны такія, якія ж мы?!

— Добра гэта ці дрэнна?

— Закон прыроды.

— Ці матэматыка вучыць падпарадкавацца законам прыроды, ці змагацца з імі?

— Вучыць уваходзіць у разумны кампраміс з натурай.

*ВАСІЛЬ КАРДЗЮКЕВІЧ. Нарадзіўся ў вёсцы Аўгустова каля Бельска. У ліцэі вучыўся ў г.г. 1949-52. Закончыў ВСП у Быдгашчы (Інстытут грамадскіх навук). Магістэрскую працу пісаў на тэму: „Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім“. Настаўнік у ЗШЗ у Бельску.*

— Мы з табой, Вася, належым да старых выпускнікоў. Вучыліся яшчэ ў старым будынку і па вельмі старых падручніках, якіх таксама не хапала. Як сябе адчуваеш, дружа?

— Цяпер мне цяжка. Тыдзень таму назад памёр бацька. Але я хачу сустрэцца з як найшырэйшым кругам людзей, сваіх сяброў па школе.

— Як аўтару біяграфіі школы для цябе гэта важна.

— Мяне вельмі цікавіць лёс нашых выпускнікоў. Я б ахвотна папоўніў раздзел, прысвечаны гэтаму пытанню.

(Працяг на стар. 4)

# Бабка Дамініка



Серп, то хаваючыся ў траве, то жартоўна высоўваючы свой востры зуб, яшчэ некалькі разоў зграбна заскакаў па мяжы і, адложаны рукою гаспадыні, спачыў у баразёнцы. Згарнуўшы ў фартух нажатую траву, бадзёра выпраставала яна свае старэчыя плечы.

— Кролікам нанач нажала, — выцерла яна рукою лоб і падсунула пад хустку выпаўшыя валасы. — Пойдзем у хату. Я яшчэ толькі ў парнік падкіну, каб не пагас.

Шчоўкнуў над ключом замок і гасцінна, на ўсю шырыню, расчыніліся дзверы.

— Гэта наш летні пакой, — павяла ў левую палавіну хаты. — Яшчэ як жыў муж, дзеці былі разам, дык з вясны, калі но толькі цяплейшымі стануць дзянькі, заўсёды мы сюды перабіраліся. Тут ужо не палілі.

Семдзесят дзевятае лета пражыла на свеце Дамініка Івацік. Нарадзілася ў Камені.

Яе дзяцінства — гэта луг з каровамі, жытнія загоны, якія трэба было перамераць сярпом, ды рукі, поўныя мазалёў і царапін. У 1914 годзе, як і большасць іншых вёсак, Камень апусцеў. Паехалі ў бежанцы. Выехалі яны цэлай сям'ёй — дзед, бабуля, бацькі, яна і дзве сястры. Паехалі аж у Табольскую губерню. У дарозе захварэла маці. Памерла, не даязджаючы да Стаўбцоў. Там і пахавалі. Потым пахавалі дзеда з бабуляю.

— Я вельмі хацела вучыцца, — гаворыць. — Мела добрую памяць. Хопіць пачуць нейкі вершык ці казку — і слова ў слова паўтару.

Але не было магчымасці. Жылі бедна, апранучца таксама не заўсёды было ў што. Магчымасць гэтакая надарылася ў Расіі.

— Быў гэта аднак неспакойны час, — успамінае. — Часта прыходзілі розныя банды. І аднойчы на вачах у нас, вучняў, прыйшлі і на ўроку забілі нашага настаўніка. Добры быў настаўнік. Як успомню, то і цяпер плачу. А я так добра вучылася, на адных пяцёрках.

(Працяг на стар. 3)

# IX З'ЕЗД БГКТ

## Працаваць больш актыўна

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ВІКТАРА ШВЕДА — ДЭЛЕГАТА З ВАРШАВЫ)**

— Нашай арганізацыі перш за ўсё патрэбны інтэнсіфікацыя і эфектыўнасць ва ўсіх дзялянках яе статутовай дзейнасці, — заўважыў сакратар варшаўскага гуртка БГКТ, старшыня літаратурнага згуртавання „Белавежа“ В. Швед.

Звярнуў ён, між іншым, увагу на тое, што неабходна павялічыць колькасць членаў і гурткоў БГКТ усюды — у вёсках і гарадах, асабліва на прамысловых прадпрыемствах і пры розных сельскагаспадарчых арганізацыях. Патрэбна нам шырокая і сістэматычная праца з кожным гуртком штатных працаўнікоў нашай арганізацыі, усіх членаў Галоўнага праўлення і ўсяго нашага актыву. Трэба шырэй і настойлівей уключаць у гэта мясцовы актыў. Дагэтуль мы абмяжоўваліся супрацоўніцтвам з настаўнікамі, а ў нашых сёлах, мястэчках і гарадах працуе і жыве многа іншай інтэлігенцыі — працаўнікоў сельскагаспадарчай і медыцынскай службаў, леснікоў, працаўнікоў іншых арганізацый, і якраз гэтыя людзі могуць стацца нашым вельмі каштоўным актывам. Неабходна заахвоціць іх да супрацоўніцтва з БГКТ. Варта таксама падумаць пра ўвядзенне ў нашай арганізацыі калектыўнага членства, напрыклад, цэлых фабрык, спулдзельняў і г.д.

У беларускім асяроддзі павялічваецца зацікаўленне творчасцю нашых аўтараў. Відаць гэта па значнай колькасці людзей, якія прыходзяць на аўтарскія спатканні з „белавежцамі“, уважліва слухаюць іх творы, ахвотна набываюць выданні БГКТ. На жаль, у мінулыя чатыры гады паслабела дзейнасць нашай арганізацыі ў гэтым кірунку. Ад-



носна невялікая, беручы пад увагу ахвотных, была колькасць аўтарскіх спатканняў; апрача штогадовага выдання „Беларускага календара“ выйшла ўсяго тры зборнікі твораў нашых аўтараў. Неабходна знайсці больш сродкаў на гэтую справу: на правядзенне аўтарскіх спатканняў з чытачамі і выданне большай колькасці кніжак твораў нашых аўтараў, перш за ўсё тых з іх, што ўжо гатовы і некаторыя чакаюць на выданне доўгія гады. Наша літаратурная моладзь, апрача літстаронкі ў „Ніве“, не мае дзе змяшчаць свае творы.

У заканчэнні свайго выступлення В. Швед коратка расказаў пра асноўныя напрамкі дзейнасці варшаўскага гуртка БГКТ за мінулыя чатыры гады. Там праводзілася ажыўленая культурна-асветная праца: паўстаў і развівае дзейнасць вакальна-інструментальны калектыў, часта адбываюцца аўтарскія спатканні, спатканні з наведваючымі польскую сталіцу выдатнымі дзеячамі літаратуры, культуры і навукі з БССР, арганізуюцца даклады, гутаркі, дэманструюцца выстаўкі. Прыгожай традыцыяй сталі беларускія навагоднія балі ў Палацы культуры. Цяпер у варшаўскім гуртку БГКТ больш за 350 членаў. Гэта значная грамада ахвярных людзей да працы на ніве роднай культуры.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р




### ХРЫСЦІННАЯ

*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по бабулю послала,*
*наша Маня по бабулю послала.*
*— Ой, до мэнэ, бабуленьку, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*
*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по родыну послала,*
*наша Маня по родыну послала.*
*— Ой, до мэнэ, родынонька, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*
*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по батэнька послала,*
*наша Маня по батэнька послала.*
*— Ой, до мэнэ, мой батэньку, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*
*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по матёнку послала,*
*наша Маня по матёнку послала.*
*— Ой, до мэнэ, матуленько, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*
*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по братыка послала,*
*наша Маня по братыка послала.*
*— Ой, до мэнэ, мой братыку, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*
*Лістом, лістом дорожэнька прыпала,*
*наша Маня по сэстронку послала,*
*наша Маня по сэстронку послала.*
*— Ой, до мэнэ, сэструленьку, до мэнэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ,*
*есть у мэнэ мёд-горэлка для тэбэ.*
*Есть у мэнэ мёд-горэлка — нап'ешся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся,*
*есть у мэнэ біела постэль — выспішся.*

Ад Зіновіі Гіль, год 70, вёска Дубічы Царкоўныя, запісаў 2 жніўня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.



## Куток практычных ведаў




### ЯК ЗМЯНІЦЬ СМАК ЗВЫЧАЙНАГА МЯСА

Купіўшы ў магазіне змеленае мяса (найтаннейшае, але не заўсёды найгоршае, хаця многія гаспадыні лічаць яго чымсьці горшым), можна падрыхтаваць дасканалы абед.

Падрыхтоўваем паўкілаграма змеленага мяса, мяшаючы ялавічыну са свінінай, дадаем 1 вялікае або 2 меншыя яечкі, соль, перац, некалькі кропель вадкай прыправы „Магі", адну сухую булку, лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі ці ўкропу.

Булку мочым, а пасля выціскаем з вады. Дадаем яе да мяса разам з цэлымі яечкамі, прыправамі (мясную масу трэба каштаваць) і ўсё вымешваем драўлянай лыжкай, дадаючы па меры патрэбнасці крыху халоднай вады, так каб маса была пульхная і зусім гладкая.

Пасля гэтага ў далонях, змачваемых за кожным разам халоднай вадой, робім шарыкі аднолькавай велічыні (павінна іх выйсці 6-7), мачаем іх у цёртую булку (можна да яе дадаць яшчэ крыху цёртага жоўтага сыра), і складваем на дошчачку, пасыпаную цёртай булкай.

На вялікай патэльні разаграваем тлушч (поўную лыжку) і на невялікім агні смажым катлеты з усіх бакоў. Перад тым як будзем смажыць, шарыкі трэба зрабіць больш плоскімі, а ўсмажыўшы, на кожным палажыць кавалачак масла, паліць гарачай вадой і накрыць.

Як змяніць смак мяса? — Можна дадаць да масы: 4-5 лыжак зялёнага гарошку з баначкі; 10-15 дэкаў падсмажаных дробна нарэзаных пячурыц; дробна нарэзаную звараную валашчыну; падзелены на найдрабнейшыя кавалачкі звараны калафёр, або нават і 4-5 лыжак дробна пасечаных валошскіх арэхаў.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 5)

## ВЕРА ПАЛІТРУКА ЛОКЦЕВА

класаў пачатковай школы вымушаны быў ён спыніць далейшую вучобу і перакінуўся на курсы рахункаводаў, якія хутка і паспяхова закончыў, ды пачаў працу ў сялянскім кааператыве ў пасёлку Краснае.

Гэта ўсё яшчэ родныя мясціны, раскінутыя на берагах Днястра. Праца рахункавода не задавальняла Васіля Локцева. Захапіла яго грамадская дзейнасць. Стаў ужо тады членам Ленінскага камуністычнага саюза моладзі і па закліку гэтай баявой арганізацыі падаўся ў вёскі сваіх родных старонак, каб вучыць людзей чытаць і пісаць. Гэтая праца захапіла яго. Хацеў стаць настаўнікам. Паступіў на педагагічныя курсы, пасля якіх вучыў дзяцей у вёсцы Лутошкіна Красненскага раёна.

Настаў 1936 год. Быў гэта цяжкі год. Васілю Локцеву споўнілася 19 гадоў. І тады прызвалі яго ў армію. У кастрычніку 1936 года апынуўся ён у Беларусі.

У арміі яму спадабалася. Ахвотна згадзіўся прадоўжыць сваю службу, стаць ваенным прафесіяналам.

Таццяна Ксенафонцьеўна піша:

*„...Служачы ў арміі, Васіль адначасова вучыўся на курсах па палітычнай падрыхтоўцы. Быў палітруком. Насіў два кубікі на каўнеры сваёй ваеннай формы. Ад празмернай разумовай працы ён тады захварэў. Страшэнна балела галава. Накіравалі яго ў бальніцу, вылечылі...*

*Васіль,* — адзначае сястра, — *на працягу ўсяго свайго жыцця адзначаўся працавітасцю, сумленнасцю, пачуццём адказнасці за сваю працу перад Радзімай. Найперш быў ён камсамольцам, а затым прынялі яго ў члены Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў). Такім ён астаўся да канца свайго кароткага жыцця. Калі мы прачыталі расказ пра яго, памешчаны ў кнізе „Буг в огне", мы яшчэ раз пераканаліся, што ён не змог паступіць інакш..."*



*Палітрук Васіль Локцеў. Фатаграфія з 1938 года.*



*...і яго сын, лекар Віталій Локцеў. Фатаграфія з 1972 г.*

Тут я ад сябе напомню, што гэта палітрук Локцеў рашуча патрабаваў ад афіцэраў і салдат трэцяй роты 17 асобага батальёна, каб яны не пакідалі надбужных умацаванняў. Іван Шыбакоў (гэта яго ўспаміны прыгадвае Таццяна Ксенафонцьеўна) запамятаў, між іншым, такія вось словы палітрука Локцева:

*„Не для того построены доты, чтобы мы, бойцы Красной Армии, имея в руках оружие, покинули их."*

Ён верыў, што нядоўга давядзецца адбіваць ім ворага ў гэтых дотах, што хутка на фашыстаў будуць кінуты асноўныя сілы вялікай і магутнай Чырвонай Арміі і ён сваёй трэцяй ротай пойдзе на захад вызваляць народы ад капіталістычнага прыгнёту. Гэтай верай перапоўнена было яго сэрца. Іншай веры ён не ведаў і не прызнаваў.

*„У Беларусі Васіль ажаніўся ў 1939 годзе з Веніямінай Яўстафьеўнай,* — піша далей яго сястра і яшчэ дабаўляе, што ў верасні 1940 года ў іх нарадзіўся сын Віталій, які зараз працуе лекарам у горадзе Яраслаўль.

Маці і сын цяжкія гады гітлераўскай акупацыі правялі на нашай зямлі, у вёсцы Бацікі. Але гэта ўжо іншая гісторыя і расказ пра яе будзе асобны.

**Віктар Рудчык**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца, што я з маленькім унукам пайшла на прагулку. І мы затрымаліся на аўтобусным прыпынку. Я там на зямлі (гэта невялікі ўзгорак і побач лясок) паклала нейкія свае рэчы і гляджу: няма майго чорнага партфеля. І думаю: грошай то там не было, але ж усе дакументы мае і пашпарт там былі. Усё прапала. Далей — я ўжо ў сваёй хаце, як бы на кухні. І аказваецца, я знайшла іншы партфель, таксама чорны, а ў ім тры ці чатыры залатыя кальцы. Усе невялікія. Найменшае я надзела ўнучку на палец, а рэшту — сабе. І яшчэ былі там завушніцы. Яны мне вельмі спадабаліся, былі доўгія, шырокія і вельмі прыгожа зробленыя. Я іх прычапіла сабе да вушэй.

Марыся

Ой, **Марыся,** не хачу цябе пужаць, але сон сведчыць аб нейкіх дзіўных справах: спачатку ты партфель згубіла, а пасля знайшла, ды поўны ўсяго-ўсянюсенькага. І цяпер вазьмі і вываж, як гэта будзе: губляць нешта — абазначае знаходку, знаходзіць — наадварот, нешта страціць. Згубіла ты партфель, у якім грошай, бадай, не было, знайшла ж іншы, у якім было шмат багацця. Дык, на жаль, нейкая страта пераважыць тое знойдзенае. Але каму не здараецца...

**Астрон**

## ці ведаеце, што...

**...Боцькі** 425 год былі горадам. Гарадскія правы надаў ім у 1509 годзе Ян Сапега. Праз 60 гадоў мелі яны рынак, восем вуліц, 235 дамоў, 262 агароды. Боцькі мелі вельмі добрых рамеснікаў, у тым ліку рымароў, краўцоў і шаўцоў. Найбольшы росквіт перажывалі ў другой палове мінулага стагоддзя. У 1895 годзе тут пражывала 2600 асоб. Гарадскія правы страцілі ў 1934 г. **(яц)**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Г. А. працуе на прадпрыемстве лясной прадукцыі „Лес". Яно выплятае віклінавыя кошыкі. Умова вызначае колькасць штук на восем гадзін работы. Працуе яна як саматужніца, гэта значыць выконвае кошыкі дома. Г.А. мае страховачнае пасведчанне ЗУС і плаціць страховачныя ўзносы. Ці прыслугоўвае ёй апякунская дапамога за час звальнення ад выконвання працы на падставе неабходнасці асабістай апекі над дзіцём? Юрыст, да якога звярталася Г.А., выказаў погляд, што паводле распараджэння Рады Міністраў № 27 з 31 XII 1975 г. § 27 прадпрыемства павінна заплаціць за дні няздольнасці да працы свайго працаўніка.

АДКАЗ. Як справу заплаты за час звальнення ад працы з прычыны неабходнасці асабістай апекі над дзіцём, так і справу іншых належнасцей сацыяльнага забеспячэння рэгулюе закон з 17 XII 1974 г. аб грашовых належнасцях з сацыяльнага забеспячэння на выпадак хваробы і мацярынства. Паводле арт. 32 р. 2 гэтага закону, за выключэннем правіл адносна ўраўняльнай прыбаўкі (zasiłek wyrównawczy) і апякунскай дапамогі (zasiłek opiekuńczy) прымяняецца таксама да саматужнікаў, якія па закону аб пенсіённым забеспячэнні працаўнікоў і іх сямей лічацца працаўнікамі. Цытаванае юрыстам распараджэнне Рады Міністраў рэгулюе толькі, якія ўмовы патрэбны для таго, каб саматужніка лічыць працаўніком, а не адносіцца да заплаты за час апраўданага невыконвання працы і па правілах гэтага распараджэння Г. А. лічыцца працаўніком. Належыцца ёй, прыкладам, дапамога за час хваробы, але не належыцца апякунская дапамога.




Дарагое Сэрцайка, я вучуся ў трэцім класе ліцэя. Андруша, мой хлопец, ужо закончыў тэхнікум і восенню ідзе ў войска. Ён мяне вельмі кахае, зайздросны страшна і баіцца, каб хаця я не пакінула яго, калі ён будзе ў войску. Гэта ж аж два гады. Я, як магу, пераконваю яго, што буду чакаць. Але ён усё ж не давярае і прапануе, каб пажаніцца, пакуль ён яшчэ на месцы. Яму гэта проста, але я ж вучаніца, перада мной яшчэ два гады вучобы, а замужняй нельга будзе вучыцца ў ліцэі. Але Андруша і на гэта знайшоў адказ. Кажа, каб я пакінула гэты ліцэй і перайшла ў вячэрні. Там замужжа не перашкаджае. Я падумала: мо і праўда. Сказала бацькам. А яны ў крык. Ні ў якім выпадку. Канчай школу і ўсё, доступу да іх няма. І я між молатам і кавадлам, як кажуць, апынулася. Мне здаецца, што нічога ж тут дрэннага, каб і завочна школу закончыла. І Андруша будзе спакойны ў войску. Але як тут выйсці замуж, калі бацькі не дазваляюць?.. Андруша кажа, што ўжо ж мне 18 год, дык дазвол бацькоў неабавязковы. Але мне не хочацца рабіць гэтага без згоды бацькоў. Хацела б мець вяселле, як іншыя дзяўчаты. І што тут рабіць? Памажы, Сэрцайка.

Крыся з Бельшчыны

Крыся! Замужжа табе цяпер непатрэбнае. Праз два гады вы будзеце старэйшымі і больш падрыхтаванымі да такой сур'ёзнай справы, якой з'яўляецца шлюб.

**Сэрцайка**

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ПАДБЕЛЛІ НА ЛЬЯША

Напэўна вы, чытачы, чулі пра гэты „отпуст“ у Падбеллі? А нават былі! Гэта добра. Дык будзьце мне сведкамі, што не хлушу.

Я, праўда, не намагаўся ў гэтым годзе ехаць у Падбелле, ды дочкі пачалі пару месяцаў яшчэ таму назад голаву марочыць: „Татка, а колькі грошыкаў дасі нам на Льяша?“ Што ж было казаць. „Па сотцы хопіць?“ — пытаю. А яны мне, што мала. Тады ім параіў, што калі назбіраюць грыбоў і прададуць, усе грошы іхнія.

Падскочылі дзяўчаткі з уцехі. Кожны дзень за грыбамі хадзілі, грошыкі лічылі, пароўну дзялілі.

І вось 2 жніўня едзем у Падбелле. Ды не толькі мы. Цягнік ужо з Чаромхі запоўнены народам, ад старэнькіх бабулек да дзетвары. У Кляшчэлях і Грыгораўцах натоўп павялічваецца, здаецца, цягнік лопне. У Падбеллі вылазім. Ужо з самай раніцы расстаўлены страганы. А колькі машын! Быццам у вялікім горадзе. І якія хочаш — польскія і заграцічныя, беластоцкія і варшаўскія. Бліжэй поўдня многа народа збіраецца на плошчы ля царквы і на дарозе, найбольшы натоўп ля прылаўкаў і „бару“ з півам. Ды чаго тут няма? Дзецям аж вочы разбягаюцца, не ведаюць што й купляць — пчолку Маю ці кліпсы. Гэта 30 злотых, тое 40 злотых, усё дарага, ды што там! Гэта ж „отпуст“. А крамары аж рукі заціраюць, у душы смяюцца, сёння павязло! І круцяцца, круцяцца і грошыкі лічаць, і пачынаецца цудоўны фільм. Рознакаляровы, праўдзівы. А выступаюць у ім дзеці з дудкамі, ад якіх аж вушы пухнуць, і каўбоі з кольтамі, дзеўкі-прыгажуні і хлопцы какетлівыя, дзядулі і бабулі.

А калі сонейка пасля поўдня пачало ніжэй спускацца і царкоўныя званы абвяшчаць пачалі канец службы, натоўп пачаў расплывацца па вясковых хатах у Дубяжыне, Мокрым ці Малінніках. Фільм пераносіць нас у іншы пленер — за сталы, застаўленыя шынкамі і каўбасамі з абавязковай „чыстай“. Хто там быў, напэўна не раз успамінае, а хто не быў, запрашаем на наступны год.

**Ул. Сідарук**

## НАРАЎСКІ ХЛЕБ

Хлеб з пякарні ў Нарве вядомы сваім смакам. Важнае тое, што хлеб пячэцца тут чыста. Колькі ўжо ем я гэты смачны хлеб і не здарылася мне, як гэта часта бывае ў вялікіх гарадах, знайсці ў ім што-небудзь непатрэбнае. І за гэта хачу падзякаваць нараўскім пекарам. Адначасова і маленькая просьба, каб не спяшацца, хоць час хутка ляціць, і не дапускаць, каб часам хлеб і булкі былі недапечаны. Ліквідуецца гэты маленькі недахоп і смела можна славіць хлеб з нараўскай пякарні на цэлае ваяводства.

**В. Г.**




### ДА ВЕРЫ

*Нашто вы, Вера, абяцалі*
*Прыехаць ў госцейкі да нас?*
*Другога жніўня мы вас ждалі*
*І не дажадаліся мы вас!*

*Мы да вас тэлефанавалі*
*І не засталі дома вас,*
*Паехалі вы ў Белавежу,*
*А не прыехалі да нас.*

*Як юбіляры вас чакалі!*
*Зышлася ўся наша радня.*
*Толькі два крэслы пуставалі,*
*А нам ўсё не хапала вас.*

**Валянцін Семянюк**

Прашу прабачэння. Пра Ваш вялікі сямейны юбілей напішам абавязкова. Прыедзем спецыяльна.

**Вера Леўчук**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У апошні дзень жніўня ў Беластоку на вул. 27 Ліпеня „Стар“ падбіў веласіпедыста, які быў забіты на месцы.

А на другі дзень раніцай у вёсцы Вострая Гара, гміны Карыцін, чалавек, ехаўшы „Вартбургам“, паслізнуўся і ўдарыў у прыдарожнае дрэва. Другі пасажыр „Вартбурга“ загінуў.




## ЧАЛАВЕК АДЫХОДЗІЦЬ

З вялікім жалем я прачытаў у „Ніве“ ад 17 жніўня, што адышоў ад нас назаўсёды лекар Пяткевіч Франук (так ён сам сябе называў). Быў час, калі я працаваў начальнікам на пошце ў Бабіках, а ён там лячыў людзей. У той час мы і пазнаёміліся. Многа добрага аб ім можна было б пісаць, але ж і так усяго ў газеце не апішаш, бо аб яго працы трэба было б кніжку зламыць, а я да гэтага няздольны. Хачу толькі сказаць адно: хоць усе мы смяротныя, аднак шкада, што такія людзі, як Пяткевіч Франук паміраюць. Не пералічу, колькім людзям ён здароўе адрамантаваў, у тым ліку і мне самому. Ён не ленаваўся і ноччу ўставаць, як толькі хто застукаў у яго дзверы.

Дарагая „Ніва“, за тваім пасрэдніцтвам хачу перадаць сям'і Пяткевіча словы глыбокага спачування. А нашаму лекару няхай будзе лёгкая зямліца.

**Э. Шчасновіч**

## БРАВА ПЯТРУ І ЯГО ПЯРУ!

І зноў не магу не сказаць, як усебакова здольны і як усё ведае наш слаўны карэспандэнт „Нівы“ Пётр Байко. Яго гістарычны фельетон „Жонкі Ягайлы“ — якая ж гэта цікавая рэч! Караля гэтага, бадай, усе ведаюць, хто калі-небудзь хоць крыху сутыкнуўся з гісторыяй. Па-мойму, гэта найбольш цікавая постаць з усіх польскіх валадароў. Так як у рускіх найбольш папулярны і слаўны Пётр І Вялікі, які адзначаўся энергіяй, мужнасцю, здольнасцю і сілай (конскія падковы разгінаў), так у польскай гісторыі Ягайла.

Мы ведаем, што кароль Уладзіслаў Ягайла — гэта славуты пераможца з-пад Грунвальда, але мала хто ведаў (у тым ліку і я сам), што ён меў аж чатыры законныя жонкі. Без архіву тут Пётр Байко наўрад ці абышоўся. Але дзеля пашаны і папулярнасці „Нівы“ ён не шкадуе сіл, каб на старонках „Нівы“ даваць вельмі цікавыя матэрыялы. А ад гэтага гонар усім нам. Брава Пятру і яго пяру!

Вядома і тое, што Ягайла — ліцвін. Бацька яго, вялікі князь Ольгерд, памёр праваслаўным. Сын яго быў язычнікам, пасля праваслаўным, а калі ажаніўся з Ядвігай, прыняў каталічаства і на з'ездзе ў Валкавыску ў 1386 годзе былі прыняты меры, каб аб'яднаць Літву з Польшчай. Такім чынам польская дзяржава стала вялікай і моцнай. Цікава і тое, што апошняя жонка Ягайлы, Софія — дачка кіеўскага князя Андрэя, адна яна нарадзіла яму дзяцей.

**М. Панфілюк**

## БУДУЕЦЦА

У „Ніве“ друкаваліся крытычныя заўвагі адносна вуліц Гагарына і Аградовай у Бельску. Дзякуючы асабістым намаганням начальніка горада інж. Яна Садоўскага Раён будовы дарог і мастоў у Бельску выканаў на вул. Гагарына карыта дарогі, навазіў жвіру, а таксама зрабіў частку бетоннай падбудоўкі, на якую паложыцца асфальт. Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі ў Бельску зрабіла ўжо частку каналізацыйнай сеткі.

На вул. Аградовай прадпрыемства камунальнай гаспадаркі выканала бетонную падбудоўку ў карыце вуліцы, а Раён будовы дарог і мастоў прыступіў да асфальтавання вуліцы. Асфальт клалі на вуліцы 30 ліпеня — у дзень вызвалення горада Бельска.

**Іван Кірызюк**

## КАЛІ КУПІШ „КАМАР“

Сустрэў я сябру Анатоля Міхалевіча, які жыве ў Спічках і з'яўляецца гаспадаром. Расказвае ён дзіўную гісторыю. Купіў матавеласіпед „Камар“. Паездзіў ім некалькі дзён, і „Камар“ сапсаваўся. Узяў ён той матавеласіпед і адвёз у „Польмазбыт“ у Бельску, але там яму сказалі, што ў Бельску не выконваюць направы, калі „Камар“ на гарантыі. Сам „Польмазбыт“ сваім „Жукам“ адвёз той „Камар“ у Ксенжына каля Беластока, каб там яго направілі. Мой сябра зайшоў потым у бельскі „Польмазбыт“, каб забраць „Камар“, але пані з бюро сказала яму, каб у гэтай справе ён сам званіў у Ксенжына. Дзіўна, чаму не мог пазваніць бельскі „Польмазбыт“? Але гэта менш важнае. Чалавек пазваніў і пачуў адказ, каб прыехаў забраць „Камар“. Не памагло, што гаспадар тлумачыўся, што не можа прыехаць, бо жыта ў полі, і трэба яго звезці і што няма часу, што прасіў, каб адаслалі яго „Камар“ у Бельск, ён жа на гарантыі.

Не падабаюцца людзям такія парадкі. Чым можа выясніць беластоцкі „Польмазбыт“ такую бюракратыю?

**Андрэй Гаўрылюк**

## ТРЭБА ДЗЕЙНІЧАЦЬ

У сяле Дубяжына ёсць прыгожая новая святліца, якую моладзь выкарыстоўвае пераважна на арганізаванне музык. А шкада, што толькі на тое. Тут жа мог бы з вялікім поспехам працаваць драматычны гурток. Варта, каб моладзь, а многа яе ёсць у Дубяжыне вельмі актыўнай, заснавала мясцовы маладзёжны драматычны гурток — брата старэйшых і слаўных „Дубочкаў“.

**Іван Кірызюк**

## СТОЛЯР, ЯКІХ МАЛА

Хто не ведае вёску Старына, Дубіцкай гміны?! Ляжыць яна сярод Белавежскай пушчы. Тут і надлясніцтва мае сваё месца, тут і радзіма многіх талентаў. Вось пра аднаго такога хачу некалькі слоў напісаць. А з'яўляецца ім Рыгор Леўчук, сын Яўгена. Гэта ад прыроды адораны майстар-столяр. За сваё жыццё ён паставіў 71 драўляную прасторную хату. А колькі паставіў хлявоў, хлеўчыкаў, клуняў, свіранаў, дык цяжка і палічыць! Яго работа акуратная, усё аж зіхаціць. І сёння да яго часта прыязджаюць людзі з просьбай, каб пабудаваў драўляны дом. А ведаем жа, што зноў пайшла мода на такія будынкі.

Рыгор Леўчук ужо і не вельмі рвецца цяпер ставіць тыя хаты, бо пераваліла яму за 75 гадоў. Жонка памерла. Кажа, што яму цяжка хадзіць па высокім рыштаванні. Але людзі не адыходзяць, просяць, каб ён толькі ўказваў як і што рабіць, як вымераць вугал і даць больш дакладныя чарцяжы, а рэшту будзе рабіць хто іншы. Часамі Рыгор Леўчук згаджаецца, тады задаволены чалавек гатоў яму рукі цалаваць, так высока цэніцца яго работа.

У жыцці меў адзін выпадак. Вось як гэта здарылася. Яго памочнік прыкладаў самы высокі дыль наверсе, насупраць ніжэй на рыштаванні стаяў Рыгор. Трымаў у руках сякеру і долата. Памочнік неяк страціў раўнавагу, бо стаяў на адным толькі дылі, і паляцеў уніз, а ў гарачцы схапіў Рыгора рукамі і абодва паляцелі на зямлю. У выніку сякера перабіла Рыгору пераносіцу, ды і ў іншых месцах быў паранены. Ляжаў у бальніцы. Гэта сумнае здарэнне з доўгага і багатага жыцця Рыгора Леўчука.

**М. Панфілюк**

## ПРАЗ ВУЛІЦУ БРОДАМ

Ужо некалькі год жыхары пасялковага камітэта № 4 у Гайнаўцы на кожным сваім сходзе гавораць аб патрэбе пабудовы новага адрэзка вуліцы Врублеўскага, якая спалучаецца з вуліцай Ліповай у простай лініі. Вуліцай Врублеўскага кожны дзень ідуць у школу № 2 і ў прадшколле дзеці, а дарослыя — на работу ў хімічную. На тым адрэзку, за які ідзе спор, працякае рэчка Лясная, праз якую трэба пралажыць масток. Цяпер тую рэчку дзеці праходзяць бродам. А вядома, як дзеці ходзяць — не ідуць, дзе плытка, а знаходзяць найглыбейшыя месцы, і потым іх мамы толькі ведаюць, колькі клопату, каб давесці дзяцей да парадку. Пераходзіць рэчку бродам у час паводак вельмі небяспечна.

Каб як найхутчэй усё гэта ўладкаваць, жыхары пасёлка запрапанавалі пабудову гэтага адрэзка вуліцы сваімі рукамі, толькі каб гарадское ўпраўленне са свайго боку пабудавала масток.

**Э. Вайсковіч**

## БЕСПАРАДАК

Некаторыя жыхары вуліцы Лятнічай у Бельску ўсялякія бруды выліваюць проста на вуліцу. Многа тут смецця, але найгорш тое, што смурод ідзе, як з нужніка. Варта, каб бельскі санэпід заняўся гэтым і пачаставаў некаторых мандатамі.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ДЗЕ КУПІЦЬ ЦВІКІ?“, „Ніва“ № 26 (1270) ад 29 VI 80 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA”, ZAKŁAD ZAOPATRZENIA ROLNICTWA.**

Odnośnie braku gwoździ 4- i 5-calowych w sklepie z „Artykułami do Produkcji Rolnej” w Narwi, wyjaśniamy, że obecnie zaopatrzenie w gwoździe na terenie województwa jest nie najlepsze.

W pierwszym półroczu br. otrzymaliśmy przydział gwoździ w pełnym asortymencie — 450 ton. Dotychczas nastąpiła realizacja w wysokości 126 ton. Pomimo naszych monitów, wyjazdu do dostawców oraz dwukrotnej interwencji Centralnego Zaopatrzenia Rolnictwa Zakładu Żelaza w Katowicach, nadal spływ jest minimalny. Przemysł w pierwszej kolejności realizuje kontrakty eksportowe w myśl polityki Władz Centralnych. Poprawa zaopatrzenia rynku w powyższy artykuł ma nastąpić w II półroczu od m-ca września 1980 r.

Dyrektor ZZR
**Zb. Dobrzyński**

**Да публікацыі „НЕ ПА-ГАСПАДАРСКУ“, „Ніва“ № 26 (1270) ад 29 VI 80 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKIE PRZEDSIĘBIORSTWO HANDLU WEWNĘTRZNEGO W BIAŁYMSTOKU.**

Ogniwa AS-8, które stosuje się do ogrodzeń elektrycznych są artykułem sterowanym przez Centralę Państwowego Handlu Wewnętrznego. Należność roku bieżącego nie pokrywa w pełni potrzeb klientów. W związku z powyższym występują trudności w nabyciu wymienionych baterii. W trosce o klienta i w celu jak najlepszego zabezpieczenia potrzeb przyśpieszyliśmy realizację dostaw powyższych ogniw, mianowicie należność roczna została zrealizowana do dnia 16.04.80 r. w 90,4%. Pozostała ilość baterii, w/g informacji producenta, zostanie zrealizowana z chwilą uruchomienia produkcji, która wstrzymana została ze względu na brak surowca.

Główny Specjalista
Zakładu Obrotu
Art. Wyposażania Mieszkań
mgr **Jadwiga Stępniak**




**Мацей Сляскі, Кракаў.** Беларускі каляндар і літаратурны альманах „Белавежа“ вам выслалі.

**Тамаш Кірылаў.** „Пішу да вас з маёй роднай зямлі, з Глыбоччыны. Я прыехаў сюды тыдзень таму назад з жонкай. Як заўсёды сваякі прынялі нас вельмі сардэчна. Вельмі цешымся, што бачым прыгожыя палі, лясы, узгоркі і азёры. Прывёз я з сабой некалькі экземпляраў „Нівы“, між іншым, нумар 31, у якім быў надрукаваны мой ліст у рэдакцыю і здымак, зроблены іменна тут, у Запруддзі, дзе я стаю з маёй жонкай. Многія знаёмыя прасілі мяне падараваць ім гэтую „Ніву“. На жаль, гэта адзіны мой экземпляр. Я абяцаў, што прышлю ім гэты нумар з Польшчы. Рашыў яшчэ, што выпішу некалькі „Ніў“ для знаёмых. Вельмі ім „Ніва“ падабаецца. Яны віншуюць мяне, што я карэспандэнт „Нівы“. І так дзякуючы рэдакцыі, мой аўтарытэт тут вырас. Прывёз таксама „шчотку“ сваёй кніжкі „І так прайграеце вайну“. Хоць яна напісана па-польску, першы яе раздзел апісвае Глыбоцкую зямлю, і мае сваякі чытаюць яе з вялікім зацікаўленнем. І так я задаволены, вясёлы, шчаслівы. Многа тут сонца і цяпла ў сэрцах маіх сваякоў і знаёмых. Учора, вяртаючыся з экскурсіі на Сетаўскае возера і Загорскую гару, я прамок да ніткі, бо дождж пайшоў зусім неспадзявана. Але праз хвіліну зноў засвяціла сонца. У нас у плане наведаць сталіцу Беларусі Мінск. Гэта чатыры гадзіны язды з Глыбокага прыгожым выгодным аўтобусам. Хачу сказаць, што прымаюць нас вельмі гасцінна. Ёсць гарэлка, але п'ем мы ў меру і культурна. Я ж прыехаў сюды наведаць сваякоў і родную зямлю, а не ляжаць п'яным. О, клічуць мяне на абед. Прыміце сардэчныя прывітанні для ўсёй рэдакцыі і пажаданні ўсяго найлепшага вам. Я люблю беларускія бліны, беларускі хлебны квас, гукі беларускай мовы і песні. Ваш верны чытач Тамаш Кірылаў“.

**Паўночны палярны круг.** „Вельмі сардэчныя палярныя прывітанні з навуковай экспедыцыі на Шпіцберген — востраў гор, ледавікоў і палярных мядзведзяў — перасылае рэдакцыі пастаянны чытач Яўген Рыжык. Падбаза экспедыцыі каля ледавіка Лінэбрэн, 78°04′ паўночнай геаграфічнай шырыні, Зямля Нордэнскельда, Шпіцберген“.

Імпарттумар



# РАЗРАДКА

Праўду кажучы, я нават не спадзяваўся, што мой даўнішні знаёмы Пецька Нечапай адважыцца калі-небудзь размаўляць з начальствам такім тонам. Няхай нават па тэлефоне. Калісьці непрыкметны, ціхі Пецька (зараз ужо Пётр Макаравіч) громам грымеў, фіксуючы кожную сваю думку ўдарам рабра далоні аб стол.

— Я разумею, — крычаў Пецька, — што мы з вамі, Кандрат Піліпавіч, не з адной міскі сёрбалі. На гэта былі гістарычныя, так сказаць, прычыны. Што? Ды як вы можаце? Але, зрэшты... Шчасце, што я з вамі свіней не пасвіў. Як-ніяк, гэта занятак вельмі адказны... А яшчэ дагэтуль не магу забыць, як вы выступалі на прафсаюзнай нарадзе. Ха-ха! Зыходзячы, значыцца, з магчымасцей, якія днём і ноччу стаяць перад намі, былі дасягнуты пэўныя поспехі ў арганізацыі правядзення, значыцца, культурных захадаў, з мэтаю забеспячэння, значыцца... Цьфу! Замест таго, каб сказаць проста: „Пры маім, старшыні сельсавета, садзейнні для клуба была закуплена балалайка". А чаму ж гэта клубны магнітафон і тэлевізар „захоўваюцца" ў вас дома? Не будзеце ж вы пляжуаць, што яны перайшлі да вас у спадчыну ад вашага дзеда ці прадзеда. Сорам, Піліпавіч! I як загадчык клуба я...

З гэтымі словамі Пецька кідае трубку на рычажкі, выцірае ўспацелы лоб...

— А ты, аказваецца, прынцыпова праўду-матку — у вочы, — ашаломлена мармычу я.

— Жартуеш, — адбрыкваецца Пецька, — гэта ж я для разрадкі. Занудзішся тут. Ды й тэлефон ужо месяцы са тры як не працуе...

**Багдан Басцюк**



## ГУМАР З БАРАДОЮ

Адзін шэры заяц, цішком пад самым носам варты, праскочыў праз граніцу ў Аўстрыю. Сеў, пераведу дух і аглядаецца на новы край. Падскочылі да яго аўстрыяцкія зайцы.

— Чаго ты ўцёк з свайго краю? Тут, братка, такога бруха не загадуеш, як у вас. Тут скрозь платы, драты, скрозь акцыз і каравул на нас.

— Бачыце, братцы, — кажа заяц, падняўшы вушы, — у нас выйшаў учора прыказ, каб падкаваць усіх вярблюдаў!

— Дык чаго ты, дурань, спудзіўся, ты ж заяц, а не вярблюд!

— Добра вам гэта казаць, а ў нас зловяць, падкуюць, а тады ляпай падковамі па траве, пакуль давядзеш, што ты заяц, а не вярблюд.



# НІЎКА



## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— У вас не гараць фары, — сказаў паліцэйскі вадзіцелю, — вам давядзецца заплаціць пяцьдзесят крон.

— Вось бачыш, — прашаптала жонка, — а ў майстэрні за папраўку фар прасілі сотню. Добра, што ты не згадзіўся.

✲

— Вось так і атрымалася, што за тое цудоўнае паляванне я падстрэліў дванаццаць фазанаў, — расказваў паляўнічы свайму сябру.

— Але, татка, — сказаў сын паляўнічага, — у мінулым годзе ты гаварыў, што падстрэліў за тое паляванне сем фазанаў.

— У мінулым годзе ты быў занадта малы, каб ведаць усю праўду!





## ПАБАЛАКАЛІ

Едзе Кастусь вуліцай возам, а сусед і гукае:

— Кастусь, а зайдзіце ж, вып'ем па сто грам...

— Тпр-р.

— ...ды дроў урэжам.

— Но-о, заслухалася....

## АДЗНАКА ВУЧОНАСЦІ

— Тата, — пытае першакласнік Іваська свайго бацьку, — чаму ты такі лысы?

— Мм... Ведаеш, Іваська, я дужа доўга і багата вучыўся, вось і палысеў...

Іваська падумаў і сказаў:

— З заўтрашняга дня я ў школу больш не пайду...

— Гэта ж чаму? — здзівіўся бацька.

— Я не хачу быць лысым.

## АПРАЎДАННЕ ПРАДАЎЦА

— На што вы скардзіцца
Прыйшлі сюды?
Што ў смятане нашай
Шмат вады?
Дык вам, галубка,
Ведаць не пашкодзіць,
Ніхто вадой смятану
Не разводзіць.
Вам напляткарылі, не верце,
Усё лухта.
На гэта ёсць кефір
Альбо пахта.

**У. Мацвеенка**



**Прыходзячы на працу, адчуваў сябе часова непрацаздольным.**

РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ЗАВУШНІЦЫ

Словы М. Танка

Музыка У. Мулявіна

*О, колькі раз прасіў я*
*Назначыць мне спатканне;*
*О, колькі раз хацеў я*
*Прызнацца ёй у каханні!*
*Ды ўсё перашкаджалі,*
*Калі дзяўчыне верыць,*
*То павадак вясновы,*
*То прымаразак-шэрань.*
*Але і я — упарты,*
*І каб свайго дабіцца,*
*Прасіў я шчыра майстра*
*Зрабіць ёй завушніцы.*
*На гэтых завушніцах*
*Я напісаў закляцце —*
*Усё, што не сказаў ёй,*
*А ў чым хацеў прызнацца.*
*Сягоння не ўцячэ ўжо*
*Ад слоў маіх гарачых*
*Ні ў час, калі смяецца,*
*Спявае або плача.*
*Ні ў час, калі прыляжа,*
*Змарыўшыся, змярканнем, —*
*Звіняць ёй завушніцы*
*Усё пра маё каханне.*



## ПРЫКМЕТА

— Пётр нязносны, Марта, ён увесь час адкладае дзень шлюбу.

— На тваім месцы, Анечка, я б адмовіла яму. Уяўляеш, як бы ён цягнуў з разводам!

## СПЫНІЛАСЯ

Суддзя пытае сведку, колькі ёй год.

— Я нядаўна падышла да трыццаці, — какетліва сказала сведка.

— І што ж вас так спыніла ў дарозе? — суха спытаў суддзя.

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПОСПЕХ СЕЛЕКЦЫЯНЕРА

Новы гатунак апельсінаў вывеў на сваім гародзе аматар-селекцыянер Калуповіч. Захоўваючы ранейшыя памеры, садавіна стала важыць удвая больш.

## ПЫТАННЕ ПРАФ. КАЗЯЎКІ

Калі чалавек нічога не робіць за аклад, то колькі ён робіць за паўакладу?

*Унікальны нумар.*

## НЫРЭЦ

Ты ўмееш ныраць?

— Так.

— А колькі ты можаш заставацца пад вадой?

— Па-рознаму.

— Як гэта?

— Залежыць ад таго, як хутка мяне выцягнуць.

## ШТО НАЙЛЕПШАЕ?

Сустрэліся нейк Кастусь з дацэнтам Скокам і завялі размову пра тое, што для іх найлепшае ў жыцці. Вось дацэнт і кажа:

— Для мяне найлепшае — гэта калі, дачакаўшыся летняга водпуску, я змагу паехаць у санаторый падлячыцца, адпачыць...

— Э, не гавары, дацэнт, найлепшае — калі ў суседа свежына. Еш, пі колькі ўлезе, а галоўнае — падарунка несці не трэба, — адказаў Кастусь.

## ПАДСЛУХАНАЯ РАЗМОВА

— Дарагая, твая дачка сёлета зноў паступае ў інстытут?

— Так, летась выкладчык паставіў ёй „два" толькі таму, што яна не ведала Эйнштэйна.

— Я заўсёды гаварыла, што ў наш час у інстытут можна паступіць выключна па знаёмству.



# Курʼёзы

## М. ТЭТЧЭР РЭКЛАМУЕ

З гэтага часу М. Тэтчэр будзе рэкламаваць гатовае адзенне японскай фірмы „Канэба". За гэта гаспадары фірмы згадзіліся аплачваць усе яgoныя расходы, звязаныя з захапленнем аўтагонкамі. Сказаўшы „яго", мы не зрабілі памылкі. Гутарка ідзе не пра прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр, а пра яе 26-гадовага сына Марка. Гэта ён наняўся рэкламаваць японскія вырабы. Брытанская федэрацыя вытворцаў гатовага адзення, піша газета „Таймс", кваліфікавала ўчынак Марка Тэтчэра як „ганебны". І не дзіўна: атрымаўшы для рэкламы сваіх вырабаў такое гучнае прозвішча, японскія бізнесмены становяцца яшчэ больш небяспечнымі канкурэнтамі англійскіх прадпрыемцаў.

## НАВОШТА ФУТБАЛІСТУ ГАЛАВА?

Па амерыканскаму тэлебачанню быў паказаны нядаўна дакументальны фільм — інтэрв'ю з „зоркамі" прафесіянальнага баскетбола і футбола. Высветлілася, што, будучы ў свой час студэнтамі каледжаў або універсітэтаў, яны фактычна не вучыліся, заняткаў не наведвалі. Выкладчыкі ставілі ім адзнакі так, „са столі", толькі б „зорка" паспяхова выступала на спаборніцтвах. Адзін з тых, у каго бралі інтэрв'ю, не бянтэжачыся, сказаў, што да гэтага часу не ўмее пісаць, хоць з'яўляецца ўладальнікам пасведчання аб заканчэнні каледжа.





**Як самому пабудаваць піраміду Хеопса.**

**Вазьміце 16 мільёнаў каменных блокаў вагой 10 тон кожны. Складзіце іх акуратнай горкай. А цяпер адыдзіце на 5-6 кіламетраў і палюбуйцеся закончанай працай. Міжвольная гордасць ахопіць вас, калі ўбачыце тварэнне сваіх рук.**